

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# ЗВЯЗДА



22 мая 1991 г. СЕРАДА

Газета выдаецца са жніўня 1917 года

Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР

№ 98 (21626)

Цана 10 кап.

# Ці адыдзем ад бездані?

## З сесіі Вярхоўнага Савета БССР

Сесія Вярхоўнага Савета БССР, аб адкрыцці якой так многа гаварылі стачкомы, учора пачала сваю работу. Грамадства, наэлектрызаванае красавіцкім процістаяннем, прыціхла. Кожны з нас спадзяецца, што выбраннікі народа праявяць мудрасць і мужнасць, каб не перанесці ў залу пасяджэнняў тэмпературу вуліцы, жорсткія фармулёўкі яе патрабаванняў. Так, голас вуліцы, заводскіх гудкоў трэба чуць, улічваць пры прыняцці рашэнняў, але толькі чорны або белы—не тыя колеры, якія цалкам адлюстроўваюць усю палітру нашага складанага жыцця. Перад пачаткам сесіі мы размаўлялі з дэпутатамі, і многія падкрэслівалі: так, ёсць небяспека, што замест разважнага і адказнага абмеркавання праблем вываду грамадства з крызісу, сесію захлісне стыхія мітынгу. І хоць спробы народнага дэпутата С. А. Антончыка дабіцца выступлення на сесіі прадстаўнікоў стачкома не атрымалі падтрымкі, як паказаў далейшы ход падзей, гэтыя апасенні былі не дарэмнымі.

Ва ўступным слове ад імя Прэзідыума Старшыня Вярхоўнага Савета БССР М. І. Дземянцей даў кароткую характарыстыку сучаснага становішча ў рэспубліцы. Яно няпростае. Працягваецца спад у эканоміцы, крызіс ахоплівае ўсё новыя і новыя сферы, нарастае напружанасць у грамадстве. Вывад: без палітычнай стабільнасці вырашэнне архіцяжкіх праблем немагчымае. Была надзея на дыялог з усімі зацікаўленымі ў стабілізацыі абстаноўкі сіламі, але гэтыя надзеі не апраўдаліся. Многія дзяржаўныя, савецкія і гаспадарчыя структуры аказаліся не ў стане авалодаць сітуацыяй. І калі Вярхоўны Савет не здолее прапанаваць народу шляхі выхаду з крызісу, рэспубліку чакаюць надзвычай цяжкія выпрабаванні.

Самыя гарачыя спрэчкі разгарнуліся вакол парадку дня сесіі. Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. С. Шушкевіч прапанаваў чатыры блокі пытанняў, якія павінны быць разгледжаны: палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя, культурныя. Такая канцэпцыя Прэзідыума. Усяго ў парадку сесіі набралася ажно 34 пункты. Ёсць тут і глабальныя праблемы, і тыя, што носяць лакальны характар.

Іншую канцэпцыю прапанавала дэпутацкая апазіцыя БНФ. Яна таксама ідзе ад агульнага да прыватнага, але гэта агульнае вылучаецца па іншых мерках. На думку лідэра апазіцыі З. С. Пазняка, ні камуністычны Вярхоўны Савет, ні камуністычны Савет Міністраў не могуць карэнным чынам паўплываць на сітуацыю, бо сваім нізкапаклонствам перад Масквой і КПСС толькі пагоршылі становішча. Таму, маўляў, уся іх дзейнасць звядзецца да імкнення «мадэрнізаваць прагнілую адміністрацыйную сістэму», а не прынясе радыкальных змен. Канцэпцыя апазіцыі — ад палітыкі да эканомікі, а больш канкрэтна: наданне Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР статуса канстытуцыйнага закона; дэпартызацыя праваахоўных органаў, прадпрыемстваў і арганізацый; новы закон аб выбарах; фарміраванне пераходнага ўрада на кааліцыйнай аснове; раздзяржаўленне, прыватызацыя і развіццё эканомікі; пытанні аб войску і аб грамадзянстве Беларусі. Сем пытанняў. Дадаткова — адстаўка Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

Нічога нечаканага, як бачым, няма. Яшчэ раз пацвярджаецца: апаненты добра ведаюць адзін аднаго, твар у твар. Думаецца, што абедзвюм канцэпцыям усё ж бракуе разважлівасці і цвярозай ацэнкі становішча. Калі першая мае на мэце «прагнаць» за параўнальна кароткі час сесіі безліч найскладанейшых пытанняў, што, несумненна, адаб'ецца на грунтоўнасці рашэнняў, то другая прапануе ўсё спачатку рэзка паламаць, што таксама не лепшы варыянт у гранічна вострай абстаноўцы.

Звярнула на сябе ўвагу і рэзкая антыкамуністычная накіраванасць прапаноў апазіцыі, спробы звесці ўвесь комплекс праблем толькі да пытанняў палітычнага ладу і адказнасці партыі.

Вось тут і пачаўся на сесіі той мітынг, калі прамоўцы слухаюць толькі сябе. Эмоцыі і агульныя абвінавачванні пераважылі разумны сэнс. Сілавы націск — не лепшы аргумент у спрэчцы.

Дададзім: некаторыя дэпутаты ў сваіх выступленнях адзначалі, што такі пачатак сесіі быў запраграміраваны дрэннай падрыхтоўкай да яе Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

У канчатковым выніку дэпутаты пераважнай большасцю галасоў прынялі за аснову парадак дня, прапанаваны Прэзідыумам Вярхоўнага Савета БССР як больш прымальны і ўзважаны.

А на плошчы ў гэты час сабраліся прадстаўнікі стачкомаў горада Мінска, а таксама група шахцёраў з Салігорска. На палотнішчах іх патрабаванні, у асноўным палітычныя. У размове заявілі: калі яны не будуць уключаны ў парадак дня, то пачнецца ўсеагульная палітычная стачка.

Няўжо і сапраўды наша рэспубліка будзе кінута ў бездань хаосу і канфрантацыі?

Л. РЫЖАНКОВА,
М. МІХАЕВІЧ.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ і Я. ПЯСЕЦКАГА.

# ГАЛОЎНАЯ КАШТОЎНАСЦЬ— ЖЫЦЦЁ ЧАЛАВЕКА

## Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета БССР М. І. ДЗЕМЯНЦЕЯ на IV сесіі Вярхоўнага Савета БССР дванаццатага склікання 21 мая 1991 года

Паважаныя народныя дэпутаты, выбаршчыкі рэспублікі!

Перабудова, якая распачата ў краіне ў 1985 годзе і шырока расчыніла дзверы для абнаўлення сацыялізму, натыкнулася на адсутнасць канструктыўных разумных мер, праграм, метадаў, што садзейнічалі б паступальнаму руху наперад, паляпшэнню жыцця людзей.

Ніхто не адмаўляе аб'ектыўнай неабходнасці набалелых перамен. Аднак фарсіраванне рэфармісцкіх мэт без палітычнай стабільнасці выклікала цэлы рад адмоўных вынікаў.

Абвешчаны курс на моцную сацыяльную палітыку буксуе, адбываецца рэзкае зніжэнне вытворчасці, паралізаваны спажывецкі рынак, нарастае дэфіцыт амаль усіх відаў тавараў і прадуктаў харчавання. Рост цэн прыводзіць да зніжэння жыццёвага ўзроўню асноўнай масы працоўных.

Нашы людзі, раней упэўненыя ў тым, што дзяржава забяспечыць іх работай, бясплатнай адукацыяй, усімі іншымі гарантаванымі Канстытуцыяй правамі, абароніць іх спакой, баяцца страціць усё гэта. Акрамя таго, становішча нашага народа ў многім ускладняецца чарнобыльскай катастрофай.

У гэтай сітуацыі была добрая надзея на нашу чалавечую салідарнасць, згуртаванне нацыі, супрацоўніцтва і канструктыўны дыялог з усімі партыямі, грамадскімі аб'яднаннямі, якіх ужо зарэгістравана ў рэспубліцы каля 80, на сумесны пошук шляхоў выратавання Айчыны. Але гэтага не адбылося. Канфрантацыя палітычных плыней, наадварот, нарастае.

Выстаўляюцца крайнія палітычныя патрабаванні, пераважаюць эгаістычныя інтарэсы і дзеянні, якія пераходзяць ад эмацыянальнага да ультыматыўнага ўзроўню адносін з законнымі дзяржаўнымі органамі і апанентамі. Усё гэта прывяло да сацыяльнага выбуху, якога раней рэспубліка не ведала.

Узнікае пытанне: ці не парушана ў нас сувязь з тымі, чые інтарэсы мы прадстаўляем? Яго трэба адрасаваць і самай масавай арганізацыі рабочых — прафсаюзам, і дзяржаўным органам кіравання, і народным дэпутатам усіх узроўняў, а таксама грамадскім структурам.

У нас не склаўся механізм рэгулярных кантактаў з народам. Таму мы не заўсёды дакладна сабе ўяўляем думкі людзей па асноўных праблемах грамадска-палітычнага жыцця, не паспяваем рэагаваць на яго падзеі, не аказваем уплыву на працэсы барацьбы за масы, за ўладу.

У выніку толькі ў гэтым годзе ад стачак і забастовак Беларусь страціла 120 мільёнаў рублёў, у тым ліку ў г. Мінску — каля 80 мільёнаў рублёў. Паявіўся прэцэдэнт сілавога націску на адміністрацыю прадпрыемстваў і грамадскія арганізацыі і разбурэння даверу да іх.

Вось чаму па самых строгіх мерках мы павінны ацаніць дзеянні ўсіх дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў, якія маюць да гэтага дачыненне. Не здымаючы з сябе адказнасці, хачу сказаць, што як з боку ўрада, так і органаў улады ўсіх узроўняў не было прынята неабходных мер па папярэджанню сітуацыі. Хоць, з другога боку, усё прадугледзець было складана, таму што працэс разгортваўся без належнага аналізу і прагнозу.

Такое яго развіццё павінен быў прадбачыць у першую чаргу ўрад і з улікам вопыту нашых суседзяў адпаведным чынам падрыхтаваць падведамныя органы. На жаль, гэта не было зроблена. У выніку сітуацыя стала некіруемай. Запазняліся распрацоўваемыя меры, што значна зніжала іх эфектыўнасць.

Ацэнку ўсяму гэтаму даў на сваіх пасяджэннях Прэзідыум Вярхоўнага Савета. Ён абавязаў урад рэспублікі актывізаваць работу па рэалізацыі праграмы пераходу да рыначнай эканомікі, забеспячэнню сацыяльнай абароны грамадзян.

Былі папярэджаны аб няпоўнай службовай адпаведнасці намеснікі Старшыні Савета Міністраў і міністры, якія маюць адносіны да рэформы цэн.

Крытычнай ацэнкі заслугоўвае і работа Прэзідыума Вярхоўнага Савета, яго камісій, якія да гэтага часу не дабіліся зладжанай каардынацыі работы са структурнымі падраздзяленнямі Савета Міністраў.

У той жа час Прэзідыум Вярхоўнага Савета і ўрад рэспублікі па ходу падзей выпраўлялі дапушчаны фармалізм у рэформе цэн, рэагавалі на запыты і прапановы працоўных, якія выстаўляліся на мітынгах і стачках. Быў прыняты цэлы рад адпаведных нарматыўных дакументаў. Па сутнасці, амаль усе эканамічныя патрабаванні забастовачных камітэтаў былі задаволены.

Вядома, прынятых мер пакуль што недастаткова. Работа ў гэтым напрамку працягваецца. Мы ўсяляк спрабуем уцягнуць у яе і працоўныя калектывы, прафсаюзы, іншыя палітычныя сілы і рухі.

Аднак узаемаразумення, імкнення да згоды з асобнымі з іх і некаторымі актывістамі стачкомаў пакуль што не знаходзім.

Ствараецца ўражанне, што ў рэспубліцы сфарміравалася пэўная група людзей, для якіх падтрыманне ў грамадстве абстаноўкі сацыяльнай і палітычнай напружанасці стала ледзь ці не галоўнай мэтай. І для дасягнення яе, як гаворыцца, усе сродкі добрыя. У тым ліку і поўнае грэбаванне існуючымі законамі.

Мы заўсёды прыслухоўваліся і будзем прыслухоўвацца да голасу народа на плошчах. Але Вярхоўны Савет чуе і тую велізарную частку працоўнага народа, якая штодзённа выпрабляе мяса, малако, хлеб, тавары народнага спажывання, забяспечвае перавозку людзей і народнагаспадарчых грузаў.

Мы з вамі не можам быць свабоднымі ад адказнасці перад безабароннасцю ўступаючых у жыццё пакаленняў, дзяцей і моладзі. Нас хвалюе таксама лёс пенсіянераў і інвалідаў, якія, бадай, больш за ўсіх пакутуюць ад забастовак.

Улічваючы, што за патрабаваннямі стачкомаў, удзельнікаў мітынгаў і забастовак стаіць воля многіх людзей, Прэзідыум выходзіць сёння з прапановай да Вярхоўнага Савета разгледзець усе гэтыя патрабаванні ў камісіях і на сесіі Вярхоўнага Савета БССР наступным чынам:

— па эканамічных пытаннях —уносяць прапановы старшыні камісій таварышы Козік, Кулічкоў, Унучка, Леўчык, Сасноў, Булахаў, Гаркун;

— аб прыярытэтным сацыяльна-эканамічным развіцці сельскай гаспадаркі — старшыні камісій таварышы Гаркун, Козік, Унучка;

— аб увядзенні прыватнай уласнасці на зямлю — старшыні камісій таварышы Гаркун, Леўчык, Булахаў;

— па пытанню аб дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый — старшыні камісій таварышы Булахаў, Кулічкоў, Капытоў:

— аб дэпалітызацыі праваахоўных органаў — старшыні камісій таварышы Грыб, Булахаў, Леўчык;

— аб уласнасці КПСС — КПБ — старшыні камісій таварышы Каратчэня, Козік, Булахаў;

— аб праходжанні асобамі, прызванымі ва Узброеныя Сілы СССР, воінскай службы на тэрыторыі Беларускай ССР — старшыні камісій таварышы Грыб, Булахаў, Курдзюкоў.

Не магу не сказаць аб патрабаванні адстаўкі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Давайце паглядзім, якія ж ёсць падставы для таго, каб настайваць на роспуску вышэйшага органа ўлады?

Як вы ведаеце, цяперашні састаў нашага Вярхоўнага Савета быў выбраны ў строгай адпаведнасці з Канстытуцыяй БССР і Законам аб выбарах народных дэпутатаў рэспублікі. На 360 дэпутацкіх мандатаў тады прэтэндавала 1.546 кандыдатаў. Гэта значыць, што ў сярэднім кожны цяперашні народны выбраннік перамог больш чатырох канкурэнтаў. І кожны з іх з поўным правам прадстаўляе інтарэсы ў сярэднім 20—26 тысяч выбаршчыкаў.

Іншая справа, што якасць і эфектыўнасць работы дэпутатаў можа выклікаць у выбаршчыкаў пачуццё нездаволенасці. Тут, безумоўна, адбіваюцца недахват вопыту парламенцкай работы і яўны дэфіцыт высокакваліфікаваных спецыялістаў у галіне заканатворчасці, і празмерныя суб'ектыўныя палітычныя амбіцыі пэўнай часткі дэпутатаў.

Тым не менш за мінулы год работы прыняты 153 новыя законы. А ўсяго разгледжана больш як 200 пытанняў, звязаных з прававым рэгуляваннем новых эканамічных адносін, удасканаленнем нашай палітычнай сістэмы, сацыяльнай абаронай насельніцтва ад вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, з пераходам да рынку.

Ведаем мы і тое, што праграмы і законы толькі тады чаго-небудзь вартыя, калі яны ажыццяўляюцца, калі ў грамадстве створана спрыяльная для гэтага абстаноўка. Сёння ў нас гэтага не хапае.

За апошні час у рэспубліцы адбыўся прыкметны адрыў заканадаўчай дзейнасці ад прававой свядомасці некаторай часткі працоўных. І цяпер гэты працэс асабліва прагрэсіруе. Гэта значыць, што пакет законаў, прыняты цяперашнім саставам Вярхоўнага Савета, застаўся дзесьці за межамі ўспрымання вялікай групы людзей.

Важная роля ў прававым выхаванні грамадзян належыць праваахоўным органам рэспублікі, прафсаюзам. На жаль, іх работа пакуль што не аказвае належнага пазітыўнага ўздзеяння на сітуацыю ў грамадстве. Мы разумеем, што ва ўмовах агульнай нестабільнасці суд, пракуратура, органы дзяржаўнай бяспекі і ўнутраных спраў знаходзяцца ў складанай сітуацыі. І ўсё ж трэба выходзіць са стану прававога нігілізму і бескультур'я, чаго крайне патрабуе і крымінагенная абстаноўка.

Толькі за 4 месяцы бягучага года ў рэспубліцы ўчынена каля 25 тысяч злачынстваў, што на 13,8 працэнта больш, чым за такі ж перыяд у мінулым годзе. Нашы людзі жывуць у пастаяннай трывозе за сваю бяспеку і бяспеку дзяцей. І ў іх для гэтага ёсць усе падставы.

Давайце яшчэ раз успомнім красавіцкія забастоўкі. Пры вялікіх людскіх натоўпах, у атмасферы наэлектрызаванасці, эмацыянальнай напружанасці праходзілі мітынгі на плошчы Леніна. У такіх умовах дастаткова аднаго неасцярожнага слова, каб абстаноўка стала некіруемай. Да якіх цяжкіх вынікаў могуць прывесці правакацыйныя заклікі, вам тлумачыць не трэба. У апошнія гады прыкладаў у нашай краіне больш чым дастаткова. Варожасць ужо забрала не адну сотню жыццяў. Толькі ў 1990 годзе загінулі 782 чалавекі і паранена 3.617.

З боку праваахоўных органаў рэспублікі не дадзена своечасовая ацэнка блакіраванню транспартных камунікацый на Аршанскім чыгуначным вузле і іншым незаконным дзеянням, якія робяць замах на нармальную работу транспарту, а таксама на бяспеку работнікаў многіх прадпрыемстваў і жыццё грамадзян.

Дык ці не пара пераходзіць ад запэўніванняў забяспечыць парадак да штодзённай прафесіянальнай работы па выкананню дзеючых законаў, без гэтага ўся наша дзейнасць у Вярхоўным Савеце і на месцах па развіццю дэмакратыі і прававой дзяржавы страчвае ўсякі сэнс.

З усяго, што адбылося ў рэспубліцы ў красавіку, нам трэба атрымаць самыя сур'ёзныя ўрокі. Адзін з іх заключаецца ў тым, што мы павінны быць гранічна прадбачлівымі пры ажыццяўленні тых або іншых эканамічных праграм.

Безумоўна, працэс пераходу да рыначных адносін будзе ісці вельмі хваравіта. Выхад бачыцца іменна ў росце вытворчасці. Калі не забяспечым парадку тут, значыць, не атрымаем грошай для кампенсацый і індэксацый. А гэта выкліча новыя канфлікты.

Размаўляючы з людзьмі, простымі працаўнікамі, я адчуў у іх настроях нейкую бязвыхаднасць. Многія з іх лічаць, што мы зайшлі ў тупік, з якога выхаду няма.

Я не стаў бы драматызаваць сітуацыю і хачу выкласці пазіцыю Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб шляхах нармалізацыі абстаноўкі.

Першаасновай выхаду з крызісу з'яўляецца, на наш погляд, стабілізацыя грамадска-палітычнай сітуацыі ў рэспубліцы, паўсюднае ўмацаванне дысцыпліны і забеспячэнне канстытуцыйнага парадку.

Саветы як законна выбраныя органы народаўладдзя павінны кіраваць дэмакратычным працэсам, дабівацца зладжанай работы ўсіх грамадскіх сіл у вырашэнні такіх надзённых праблем, як прадукты харчавання, жыллё, тавары народнага спажывання, культура, барацьба са злачыннасцю.

Неабходна дасягнуць разумення канчатковых мэт рэформ: яны павінны быць прасякнуты не толькі перажываннямі аб уласным дабрабыце, але і клопатамі аб Айчыне, працвітанні грамадства, яго эканамічным, сацыяльным і маральным здароўі, дабры і справядлівасці.

Мы рашуча адхіляем паразітызм і ўтрыманства, адстойваем усе сацыяльныя заваёвы працоўных. Любым пераўтварэнням у эканоміцы павінны папярэднічаць меры сацыяльных гарантый працоўным і ўсім слаям насельніцтва, якія жывуць на зарплату, пенсію або дапамогі.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# «Барыня» для бізнесменаў

Ні даволі значныя ў плане камерцыйнай інфармацыі аб'явы, ні самыя змястоўныя (іх, дарэчы, было няшмат) выступленні вядомых у дзелавых колах эканамістаў і банкаўскіх работнікаў не выклікалі столькі ажыўлення сярод удзельнікаў мінскай міжнароднай сустрэчы прадпрымальнікаў «Новы бізнес у СССР», як спосаб прэзентацыі вырабаў Маладзечанскай фабрыкі музычных інструментаў. Па сігналу свайго дырэктара, настройшчык Мікалай Лазоўскі шырока расцягнуў мяхі гармоніка, што зіхацеў перламутрам, і пад скляпеннямі рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў разлілася вясёлая мелодыя. Хоць у скокі пускайся.

## Ідзём да рынку

А потым пасыпаліся пытанні: «Якая на фабрыцы эканамічная сітуацыя?», «Наколькі значныя аб'ём і асартымент выпускаемай прадукцыі?», «Якім чынам робіцца разлік з заказчыкамі па дагаворах?» І тут маладзечанцы праявілі сябе дыпламатамі. Калі большасць іх папярэднікаў упор рабілі, хоць і тактоўна, на валюту, дык маладзечанцы адказвалі проста і разважна: «Хто гатоў разлічвацца валютай — загадзя дзякуем. Але і ад рубля не адмовімся — гэта таксама грошы...»

Гавораць, добры пачатак — палавіна поспеху. Ужо ў перапынку тоўпіўся народ каля экспазіцыі выстаўленых імі ўзораў. І трэба сказаць, тут было на што паглядзець. У прыватнасці, прыцягвала ўвагу музычная шкатулка. Акрамя высокага класа гармонікаў «Беларусь», калектыў фабрыкі прадставіў на прэзентацыю спецыяльна распрацаваную мадэль акардэона «Крыжачок», з якім можа справіцца 4—5-гадовы акампаніятар і які дазваляе выконваць любыя музычныя творы. І гэта ўжо, вядома, не цацка.

Але музычныя інструменты — як дзіцячыя, так і дарослыя,— гэта зразумела. А вось здзівілі маладзечанцы... наборам для ваннага пакоя.

Прадпрымальнікі, прадпрымальнасць... Гэтыя словы падыходзяць да ўсіх удзельнікаў міжнароднай дзелавой сустрэчы «Новы бізнес у СССР»— да тых, хто прадстаўляў Бабруйскую швейную фабрыку, гомельскі «Вымяральнік», прадпрыемствы Ніжняга Ноўгарада і Куйбышава, італьянскую, афганскую і іншыя замежныя фірмы. На тры дні, з 17 па 19 мая, ім былі аддадзены кабінеты і залы рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў. Гэта сустрэча сабрала прадстаўнікоў амаль 200 прадпрыемстваў, фірм, міністэрстваў, банкаў і кааператываў.

Арганізатарамі ж яе выступілі Навукова-прамысловы саюз СССР, Савецкі фонд развіцця і падтрымкі малых прадпрыемстваў, Федэрацыя таварыстваў спажыўцоў СССР, Мінгарсавет, а таксама асацыяцыя «Гарант», «Інтэрінформ» і «Мікабанк», якія мелі на ўвазе прапаганду і падтрымку новых форм гаспадарання. Адпаведнай была і праграма, якая прадугледжвала правядзенне дзелавых сустрэч, дыскусій і кансультацый, спецыялізаванага семінара па праблемах павышэння эфектыўнасці прадпрымальніцкай дзейнасці і работу бізнес-клубаў па інтарэсах, а таксама прэзентацыю савецкіх і замежных фірм, выстаўку ўзораў іх прадукцыі.

Гэта сустрэча стала яшчэ адным крокам на шляху да рынку і, бясспрэчна, пайшла на карысць яе ўдзельнікам — напэўна, галоўным яе вынікам можна назваць устанаўленне паміж імі кантактаў. А новым людзям, якія прыходзяць у нашу эканоміку, такія кантакты вельмі неабходныя.

М. КАМЯК.








ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

